Жыве Беларусь!

# РЭАНІМОВА

1/7 1990

газэта суполкі імя М.Багдановіча ў Гародні

## З успамінаў наіўнага з Беластоку

Я непрабачальна доўга ня мог зразумець, што адбываецца ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, чаму народ і ўлады ненавідзяць самі сябе, беларускую мову і культуру?! Верыў, як добры дурань, што ўсяму прычына парабкоўскае паходжаньне маёй нацыі ды сталінскі вялікарускі фашызм. У беларускай дзяржаве глумяць беларускае — чыстае вады ідыятызм! Усёроўна, што, для прыкладу, у Варшаве нельга было б азвацца папольску бяз рызыкі дастаць у зубы ад трамвайнага хулігана (у Мінску было прыблізна такое, калі загаварыў я па-беларуску, наіўна лічачы, што знаходжуся ў беларускай сталіцы; праўда, гадоў колькі назад).

Функцыянеры БССР, пачынаючы ад бабы на паштовым тэлеграфе і брыгадзіра, рэагавалі на беларускую нефальклёрную непростанародную культурнасьць такім лямантам, што здавалася, неба заваліцца і сьвет кончыцца...А яны ж, думалася мне, без аніякае ласкі павінны быць абаронцамі нацыянальнага, хаця б таму, што знаходзяцца на службе ў б е л а р у с к а е дзяржавы.

Стаіць мне ўваччу маладая фельчарка ў ветэрынарнай лячэбніцы, што ля Янаўскага возера, куды зайшоў я быў пазваніць па справе ў блізкі Астравец, і яна, счуўшы маё беларускае маўленьне, кінулася на падворак, быццам схапілі яе ваніты, і да таго ж зрагаталася, апёршыся аб плот, што аж пасінела! Калі б з мяне быў "калхозьнік", а не чалавек у гарнітуры і пад гальштукам, яна, магчыма, зрэагавала б, як той астравецкі лейтэнант міліцыі: гаварыў на роднай мове па тэлефоне з кімсьці, хто абяцаў яму пару вазоў гною на агарод пад бульбу, але да мяне, яшчэ і незнаёмца, катэгарычна па-руску, хоць я і тлумачыў яму, што ня ўсё разумею. Існа бель негр.

Я знаходзіў паралелі да нашай сытуацыі ў Беластоцкім краі. Фактычна, тое ж самае; уся розьніца ня болей як у тым, што, пастаўлена нас на калені менавіта перад польскай мовай і культурай.

Усё думаў-перадумваў: чаму камунізм робіць з чалавека сьмяцьцё? І як гэта сталася магчымым, каб беларус апынуўся ў грамадзка-псіхалягічным становішчы ажно горшым, чымсьці пры паганых царах ды панскай Польшчы? Пры наяўнасьці, як ні круці, уласнага дзяржаўнага ўтварэньня ды ў дадатак пры народаўладзьдзі, аб чым штодзень чыталася ў газэтах і штосекунды перадавалася па радыё, паказвалася ў тэлебачаньні...

Некалі ашаламіла мяне прыватнае выказваньне Цата-Мацкевіча, польскага манархіста, які кінуў-рынуў гульню ў эмігранцкі ўрад і вярнуўся ў 1956 годзе ў Польскую Народную Рэспубліку:

-Добрая сыстэма, элітарная,- пахваліў ён польскі ЦК ПАРП. -Я заўсёды лічыў, што хамаў трэба трымаць за морду, хай аруць ды сеюць...Краінай павінна кіраваць арыстакратыя, гэта значыць, вярхі, і бачу, што так яно і ёсьць...

Ну, падумайце самі: ці гэта не адказ на загадку, чаму расейскія чарнасоценцы сёньня знайшліся ў саюзе са сталіністамі? І чаму нямецкія бароны падтрымалі Гітлера? А гэты ж Адольф ня быў марыянеткай, як спрабоўваюць абдурваць нас з газэтных палосаў ды графаманскіх кінакарцін; прыйшоў да ўлады ён у Нямеччыне больш легальна, чымсь бальшавікі ў Расейскай імпэрыі, а нацыская партыя называлася і рабочай і сацыялістычнай, і належылі да яе мільёны рабацяшчае масы.

Зьявілася "перестройка".

Галоўны яе дагэтуляшні атрыбут - "гласность", свабода друку і слова. Гледзячы, як намаганьні ўчыніць Беларусь беларускай наткнуліся на бетонную сьцяну з апаратнікаў і залежных ад іх штатамі кіраўніцкіх слаёў народу (нечуваная ў сьвеце славутая штатызацыя жыцьця!), да маёй сьвядомасьці прыйшла недапушчальная раней банальная праўда: мы ж надалей калёнія! Я ня буду занадта ўпарціцца, калі нехта завозьмецца даказваць, што аб"ектыўна з намі інакш і не магло быць... Вадзім Круталевіч у "Станаўленьні дзяржаўнасьці" шмат у чым упераканаў мяне. Няшчасьце Беларусі працягнецца так доўга, як доўга ў міжнароднай палітыцы будуць мець значэньне арміі, кулак замест рацыі, аргумэнта. Нашы прашчуры, вядома, не прадбачылі, што расьселіся на будучым шляху з Эўропы ў Расею і з Расеі ў Эўропу, а потым ня было куды ім падзецца, усе наклалі штурхачоў у бакі...

Прытрымліваючыся паняцьця каланіяльнага народу — усё тое, што адбываецца з намі, зробіцца чытэльным і ясным, уключна з дэталямі. Ёсьць праблема з мовай,- кажуць. Не дагаворваюць да канца, што праблема беларускае мовы ў Беларускай ССР — гэта праблема беларускасьці ўлады ў рэспубліцы. Чаму няма падобнай бяды, скажам, у Арменіі, Грузіі, Літве? Бо там уладу выконваюць людзі, якія ня згубілі пачуцьця айчыны, бацькаўшчыны, не перарабіліся ў касмапалітаў, якім напляваць на тое, дзе кіраваць і чым кіраваць, абы з пахвалою з цэнтра накшталт гісторыі старажытнага Рыма .

Яксьці не паддаюцца інструментам розуму паводзіны імпэрскіх чыноўнікаў...Далейшае існаваньне Беларускае ССР у такім выглядзе — гэта ж палітычны жарт?! (Накшталт нядаўняй Радэзіі.) Альтэрнатывай яму магла б быць ліквідацыя яе, аб чым даводзілася пачуць і ад сярэдняга рангу адміністратараў: "Сущая чепуха вся эта БССР!"

Аднак жа такая альтэрнатыва нярэальная, няхай сабе і выказалася б за ёю — бывала ўжо — дзевяноста дзевяць і дзевяць дзесятых працэнта ўсяго губернскага насельніцтва (у парадку рэферэндума). Яе рэалізацыя, звычайна, дзіка кампраметавала б увесь Савецкі Саюз, яго наогул сэнс. Дык што застаецца? Адно, толькі беларусізацыя. З вялізным рыпам, можа быць і з усенароднай дыверсіяй, але другога шляху няма. Беларускі манкурт мусіць ачалавечыцца! У цяперашні час ня будзе яму дадзена нагода для па-азіяцку радаснага самагубства, самазьнішчэньня, самаадрачэньня, самаапляўваньня. Н о в ы Савецкі Саюз проста ня зможа дазволіць сабе на гэткую нясусьветную ганьбу! Гэта ў ж о па-за ўсякай дыскусіяй, і ў гэтым наш ратунак.

Сакрат Яновіч

